# Бацькаўшчына

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“ Цана гэтага нумару 20 н. фэн.

№ 24 (27) 11 ліпеня 1948 г. год выданьня 2


## ДА НАЙВЫШЭЙШАГА ПУНКТУ КРЫЗІСУ

### БЕЛГРАД

**Белград** (паводля **ДЭНА-Рэйтар**). Як трапна выказалася адна аўстрыйская афіцыйная асоба, увага цэлага сьвету прыкутая цяпер да двух пунктаў: Бэрлін і Белград. У Белградзе асуджаныя камінформам кіраўнікі адбываюць частыя паседжаньні, а «народныя масы» усяляк дэманструюць сваю адданасьць ім і асабліва маршалу Тыто. ЦК югаслаўскае кампартыі запрасіў усе кампартыі, бяз увагі на іхную прыналежнасьць да камінформу, на 5-ты зьезд кампартыі Югаславіі на 21 ліпеня. У вадмысловым камунікаце ЦК кампартыі Югаславіі адкінуў усе абвінавачаньні камінформу, асабліва такія, як «абарону кулацтва», «зраду марксызму-ленінізму», «нацыяналізм» і г. д. Выбарнасьці, «крытыкі й самакрытыкі» у югаслаўскай кампартыі, паводля камунікату, ня менш, як у савецкай. Не югаслаўская патаёмная паліцыя сачыла савецкіх прадстаўнікоў, а савецкая патаёмная агентура спрабавала апанаваць Югаславію. — 15 000 сяброў югаслаўскага «народнага фронту» зьвярнуліся з тэлеграмаю да Сталіна з просьбай ужыць усё, што ў ягонай моцы, каб абараніць Югаславію, ейную кампартыю й ейны ЦК ад «неабгрунтаваных абвінавачаньняў». Верная дачка Масквы Альбанія адклікала ўсе свае ўмовы зь Югаславіяй і загадала ўсім югаслаўскім спэцыялістым у 24 гадзіны пакінуць край, вінавацячы Югаславію ў намаганьні «калёнізаваць» Альбанію. Югаславія войстра запратэставала. Альбанія спыніла таксама пастачаньні нафты Югаславіі. Іншыя усходняэўрапейскія краі, падзяляючы асуджэньне камінформам югаслаўскае кампартыі, падтрымваюць аднак культурныя дачыненьні зь Югаславіяй (Баўгарыя, Вугоршчына). Сядзіба камінформу перанесеная зь Белграду ў Румынію, у Букарэшт, дзе ўжо й выйшаў чародны нумар органу камінформу з пастановай яго пра Югаславію. — Маюць аднавіцца перапыненыя брытанска-югаслаўскія гандлёвыя перамовы. Амэрыка мае адблёкаваць югаслаўскае золата пры ўмове адшкадаваньня за страты амэрыканскіх грамадзянаў у выніку праведзенай у Югаславіі нацыяналізацыі (аб гэтую-ж умову й зацяліся былі гандлёвыя перамовы ў Лёндане). Аднак запярэчваецца, быццам Тыто згадзіўся на адступленьне Трыесту Італіі ў замену на памогу ў межах пляну Маршала. Югаславія запярэчвае чуткі пра абвешчаньне ў ей ваеннага стану, пра нутраныя сутычкі, пра стараньні зблізіцца з захадам і падчырквае сваю вернасьць камунізму, Сталіну й СССР, сумяшчаючы ўсё гэта зь няпрыняцьцем пастановаў камінформу.

### БЭРЛІН

**Бэрлін** (паводля **ДЭНА**). У цэнтры бэрлінскіх падзеяў апошняга часу стаялі перамовы чатырох пра транспартавы стан, вынік якіх, чаканы з напружаньнем, выклікаў вялікае рашчараваньне, паколькі палажэньне засталося бязь зьменаў. Уважаецца, што бэрлінскі крызіс дасягае свайго найвышэйшага пункту, і наступны крок — зварот трох заходніх урадаў да СССР. — У заходніх сэктарах праводзяцца яшчэ больш завостраныя абмежаньні ў ужываньні электрычнага току, а таксама абмежаньні руху гарадзкіх чыгунак «С-Бан» і «У-Бан». На «паветраным мосьце» да Бэрліну — узмоцнены рух самалётаў (на працягу апошніх 24 гадзінаў прыземлілася ў Бэрліне 418 амэрыканскіх самалётаў, зь іх 58 чатырохматорных, і 189 брытанскіх, зь іх 72 чатырохматорных). Чыгуначнікі выказалі жаданьне памагчы ў рамоньце шляхоў, які, паводля савецкіх цьверджаньняў, быццам-бы затрымвае адкрыцьцё руху на Бэрлін. Адзін іхны прадстаўнік трапна заявіў, што «вэтократыя» аднае акупацыйнае дзяржавы перашкаджае дэмакратычнаму адзінству саюзьнікаў. — Адзінае адпружаньне — зьняцьце саветамі забароны паштовага абмену з заходнімі зонамі. Пасьля заявы Сакалоўскага ў вадозьве, падмацаванай афіцыйнай заявай палкоўніка Калініна аб «нейснаваньні» бэрлінскае камандантуры, саветы зусім не бяруць удзелу ў дзейнасьці яе. — Вугальле ськіваецца ў Бэрліне на парашутах цэлы дзень і грузіцца ўначы. Як заявіў амэрыканскі губэрнатар ген. Клей, паветранае забясьпечаньне Бэрліну харчамі можа трываць і колькі год, як трывала ў часе апошняе вайны падобнае забясьпечаньне Кітаю зь Індыі.

## АПОШНІМ ЧАСАМ

* Паводля папярэдніх вестак аб выбарах у фінскі парлямэнт (бязь 2-х акругаў), «народныя дэмакраты» (камуністыя) апынуліся аж на трэйцім месцы, страціўшы шмат галасоў і месцаў у парлямэньце (захоўваюць тымчасам 38 месцаў). На першым месцы — аграрная партыя (56 м.), на другім — сацыял-дэмакраты (55 м.).

* ЗША спынілі пастачаньні ў парадку пляну Маршала ў Францыю, Швэдыю, Вялікабрытанію й Бэльгію, бо гэтыя краі яшчэ не падпісалі двубаковых умоваў з ЗША, хоць ужо й прынялі іх. Швайцарыя й Партугалія яшчэ не прынялі ніякіх пастановаў што да падобных умоваў.

* ЗША, Вялікабрытанія й Францыя падрыхтавалі ў Лёндане войструю ноту пратэсту саветам супраць блёкады Бэрліну.

* Пасярэднік у палестынскім канфлікце, граф Бэрнадот, пасьля адкінуцьця ягоных мірных прапановаў і Арабамі і Ізраэлем, наведаў Каіро й падаўся ў Тэль-Авіву, спадзяючыся дамагчыся прынамся працягу стану замір'я ў Палестыне.

* Бэрлінскі магістрат і гарадзкі парлямэнт пераслалі ЗН ноту ў справе сучаснага палажэньня Бэрліну. Пасьля адмовы Даніі, нота перасланая праз пасярэдніцтва іншага, неназванага гаспадарства. Таксама перасланы ліст у Бэрлінскую Кантрольную Раду.

* Брытанскія ўлады забаранілі сваім жаўнерам адпускі з Бэрліну.

* Паветранае забясьпечаньне харчамі Бэрліну каштуе Брытанцам каля 6 000 фунтаў стэрлінгаў штодня.

* Камуністычная партыя Трыесту расшчапілася на прыхільнікаў Тыто й прыхільнікаў камінформу.

* Ужываюцца захады да забясьпечаньня паветранага калідору на Бэрлін, дзе саветы спрабуюць вывешваць загараджальныя балёны.

* Швайцарская камуністычная партыя адзіная з усіх кампартыяў салідаразавалася з кампартыяй Югаславіі й выступіла супраць выключэньня яе з камінформу. Партыя гэтая ўжо ад 1946 г. у няласцы ў Масквы.

### ЗАСТУПНІК СЛАВАКОЎ І ЎСІХ ЭМІГРАНТАЎ

З колаў Славацкага Каардынацыйнага Камітэту мы атрымалі наступную вестку:

Надовечы прыбыў у Нямеччыну Я. Даст. Флёрыян С. Білі, Галоўны Сакратар Задзіночаньня Славацкіх Каталікоў у ЗША.

Я. Даст. наведаў дасюль шмат цэнтраў усходніх уцекачоў. Ягоная сядзіба ў часе бытаваньня ў Нямеччыне — Мюнхен. Я. Даст., як адмысловы дэлегат NCWC і IPO — ня толькі вартаснае падтрыманьне для славацкае нацыі, але й вялікая надзея ўсіх палітычных эмігрантаў і ДП.

## ПАСТАНОВА

### Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

### У СПРАВЕ БЕЛАРУСКАЕ НУТРАНОЕ ПАЛІТЫКІ

Разумеючы ўсю цяжкасьць сяньняшняга нацыянальна-палітычнага палажэньня беларускага народу, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ўважае за патрэбнае даць беларускім грамадзка-палітычным дзейнікам наступныя кіраўнічыя лініі беларускае нутранос палітыкі:

I.

1. **У дзялянцы ідэялёгічнай:** будаваць усю нашую нацыянальную працу на аснове тэй маральна-этычнай і культурнай спадчыны беларускага народу, якая карысна выразьняе нас сяньня з усеагульнага ідэйна-этычнага крызісу ў Эўропе. У гэтым — крыніца нашае сілы й адзіная дарога да канчальнага разьняволеньня беларускага духу, якое павінна папярэдзіць палітычнае вызваленьне нашага народу.

2. **У дзялянцы палітычнай:** кажны Беларус, сьведамы нашых ідэйна-палітычных мэтаў, павінен разумець канечнасьць нацыянальнай мабілізацыі й актывізацыі ўсіх творчых сілаў нацыі на змаганьне за ўжыцьцёўленьне незалежніцкіх ідэяў праз беспасярэдняе ходаньне й шырокую разьясьняльную і інфармацыйную працу сярод нашых масаў, дзе-б яны ня былі, праз жывое слова, беларускую прэсу й папулярную літаратуру.

3. **У дзялянцы рэлігійнай:** у васнове нашае рэлігійнае паставы ляжыць прынцып поўнае рэлігійнае таленацыі й імкненьне да нацыянальна-рэлігійнага асьведамленьня вернікаў. Дзеля гэтага нутраная палітыка Б. Н. Р. павінна імкнуцца: а) да поўнае рэалізацыі Аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы й б) да ўстанаўленьня беларускае самастойнае каталіцкае герархіі.

II.

1. Рада Беларускае Народнай Рэспублікі сьцьвярджае, што дзейнасьць усіх зарубежніцкіх угрупаваньняў, задзіночаных і ўзначаленых Радаславам Астроўскім пад фірмай Беларускае Цэнтральнае Рады, становіць дзейнасьць агентурнага характару, якая кіруецца вылучнай думкай шкоджаньня беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху.

2. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі трымаецца пагляду, што канечна трэба перайсьці ад абароны перад зарубежніцтвам да станаўкога канцэнтрычнага наступу, пераймаючы ініцыятыву змаганьня з варожай агентурай у свае собскія рукі.

3. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ўважае за найлепшы спосаб змаганьня з зарубежніцтвам шырокае выясьненьне й дэмаскаваньне перад беларускім грамадзтвам шкодных для беларускага народу мэтаў зарубежніцтва й недапушчальнасьці **ужываных ім** спосабаў у змаганьні.

4. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі заклікае ў змаганьні з зарубежніцтвам ў ніякім выпадку не паслугоўвацца мэтадамі пашквіляў і лаянкі, а захоўваць поўную этыку й нацыянальную годнасьць.

**Рада Беларускае Народнае Рэспублікі.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**З прычыны фінансавых цяжкасьцяў, выкліканых валютнай рэформай, гэты нумар газэты выходзіць у скарочаным і друкарска-ўшчыльненым выглядзе. Рэдакцыя хоча верыць і спадзявацца, што пры дапамозе добразычлівых чытачоў і іншых нацыянальных дзейнікаў, ёй удасца зноў перамагчы сучасныя нябывалыя цяжкасьці. Адначасна ўсё-ж, усебакова й цьвяроза ставячыся да ўсіх выглядаў на будучыню і то найбліжэйшую, хочам папярэдзіць аб зусім магчымых перапынках у выхадзе газэты, далейшым скарачэньні памеру яе, пераходзе на іншую друкарскую форму, больш прымітыўную й менш нам пажаданую (друк лацінкай, навет рататарнае выданьне ў рэшце рэштаў). Мы будзем старацца за ўсякую цану ўтрымаць нашую адзіную на ўсю эміграцыю друкаваную беларускую газэту, і яшчэ ды яшчэ раз зварачаемся да ўсіх, каму дорага такое ўтрыманьне, з гарачым заклікам памагчы нам як мага, чым мага й як найбаржджэй!**

## *Простым розумам*

Я хачу тут прадставіць практычнае й рэальнае гледзішча Беларуса на нашае эміграцыйнае й арганізацыйнае жыцьцё на чужыне, якое апошнімі часамі пайшло неналежнымі дарогамі. Я не вялікі палітык, каб тут раіць або камусь паказваць дарогу, якой той ці іншы мае йсьці, але хачу выказаць, што я аб гэтым думаю, і такія думкі, спадзяюся, што мае бальшыня запраўдных Беларусаў, якія кахаюць над усё Радзіму й жадаюць хуткага аслабаненьня яе ад бальшавіцкага гнёту ды поўнае незалежнасьці, за што сяньня змагаюцца й церпяць Беларусы як на Бацькаўшчыне, так і на чужыне.

Ідэя, за якую мы змагаемся й церпім, была выказаная Беларускім Народам 25 Сакавіка 1918 г. Ужо прайшло 30 год, а гэты ідэал сяньня актуальны. Ад таго часу вельмі шмат што зьмянілася, таксама зьмянілася блізу цэлае пакаленьне, і гэта трэба ўзяць сяньня на ўвагу, адносячыся да тае даты. Але ня ў гэтым справа. Тут расходзіцца аб найгоршых з такіх зьменаў, гэта аб сварках розных дзеячоў на чужыне ў імя быццам-бы гэнага ідэалу, які яны стараюцца выкарыстаць у меншай ці большай меры для сваіх прыватных інтарэсаў, забываючыся, што мы ўсе на чужыне — малая частка беларускага народу, якая жыве ў скрайняй бядзе, чакаючы на якусь «масавую эміграцыю». І вось, такі Беларус, пражыўшы больш за тры гады ў табары, заўсёды не даеўшы й неналежна адзеты, бязь ніякае мэты ў сваім жыцьці, бяшчынны, абураны на ўвесь сьвет за ягоныя парадкі, глядзіць на гэтыя сваркі, і думае: «Здаецца, вучоныя й разумныя людзі, называюць сябе прэзыдэнтам, санатарамі й паслямі, а сварацца за тое, чаго няма, як запраўдныя дзеці». Але, як кажуць, хто топіцца, дык і за брытву хопіцца. І чаго-ж гэтыя Беларусы ў Нямеччыне не хапаліся, каб толькі як-небудзь вырвацца з гэных агорклых табараў. Калі зьяўляўся сьвятар праваслаўны, абяцаючы, што запісаўшыся праваслаўным і «рускім» хутка можна выехаць у Аргентыну, бо там праваслаўны сынод аб гэтым стараецца, дык пісаліся, але ня ехалі. Калі зьяўляўся прадстаўнік польскі або якісь сьвятар небеларускай арыентацыі, абяцаючы, што «Полёнія загранічна» паможа хутка выэміграваць, дык пісаліся Палякамі, але ня ехалі. Навет верылі розным агентам, якія запісвалі ў Аргентыну, бралі за гэта грошы, а пасьля змываліся. Дык цяпер абсалютна ня дзіўна, калі гэтыя лёгкаверныя Беларусы на абяцанкі «Прэзыдэнта БЦР» ідуць галасаваць або выбіраць, ня знаючы, што гэта ўсё безкарыснае, што тут дзесьці ўкрытая нікому нязнаная мэта, што можа вельмі зашкодзіць усёй беларускай справе і здэзарыентаваць грамадзтва горай, як тыя сваймі абяцанкамі хуткай эміграцыі.

Беларусам, якія сядзяць у табарах, абсалютна не расходзіцца, ці іхны прадстаўнік будзе выбраны ці пакліканы, галоўна, каб ён здолеў бараніць інтарэсы Беларусаў на чужыне, стараючыся палепшыць іхнае жыцьцё, умагчыміць эміграцыю й г. д. Такім прадстаўнікам толькі можа быць Урад БНР із Прэзыдэнтам яе. Ня будзем разьбірацца, ці ён легальны ці паўлегальны, як гэта некаторыя кажуць, але ён належна да сяньняшняга дня бараніў беларускія інтарэсы на чужыне, нідзе ня мае закідаў і рэспэктаваны іншымі народамі. Перцы выступіў у вабароне беларускіх правоў па развале Нямеччыны, калі сп. «прэзыдэнт» БЦР, сэнатары й паслы сядзелі ціха, пазашываўшыся, як мышы пад мяцёлкай. Дык паводля іхнае думкі, усе Беларусы павінны былі чакаць тры гады, аж міне небясьпека закіду ім калябарацыі? Сядзець із зложанымі рукамі й чакаць, пакуль паважаныя сп. сп. санатары й паслы выйдуць кіраваць народам? І гэтыя людзі сяньня арганізуюць выбары на новых прадстаўнікоў. Нашто? — Ясна, каб улезьці самым. Закідаюць, што цяперашнія прадстаўнікі нічога не зрабілі. Дык яны зрабілі-б? Кажны абы-які вораг упікнуў-бы такому прадстаўніку, слушна ці няслушна, калябарацыю й гэтым закончыў-бы дыскусію што да правоў Беларусаў. Я пэўны, што цяперашняе кіраўніцтва зрабіла ўсё, што было магчыма, і ніколі не дасягнулі-б гэтага сяньняшнія прэтэндэнты на кіраўнікоў. І тут я хачу папытацца, што гэтыя правадыры зрабілі свайго часу на Бацькаўшчыне? Прэзыдэнт БЦР назначэнскім спосабам склікаў 2-гі Беларускі Кангрэс (ня можна сказаць «Усе», бо ня бы-

# ПА КУТКОХ ЭМІГРАЦЫІ

## МІХЕЛЬСДОРФСКАЯ ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНА

27-га чырвеня ў лягеры Міхельсдорф адбываліся перавыбары лягернае адміністрацыі. Перад гэтым ніякае справаздачы аб сваёй працы адміністрацыя лягеру жыхаром не давала, як не рабіла яна гэтага й на працягу цэлага часу свайго панаваньня.

Выбарчая камісія была прызначаная камандантам лягеру. У склад яе ўвайшлі 3 службоўцы адміністрацыі й 2 іншыя жыхары лягеру. Перад пачаткам працы гэтае камісіі ў склад яе тым-жа адміністрацыйным парадкам былі ўведзеныя яшчэ 2 сябры старое лягернае рады. Няма таму ніякага дзіва, што такая выбарчая камісія на першым-жа сваім паседжаньні прыняла, не зважаючы на пратэсты двух сваіх сяброў, што не належалі да адміністрацыі, выбарчую ардынацыю з галасаваньнем на адзін сьпіс. Калі гэтая «самая дэмакратычная» ардынацыя была вывешаная ў лягеры, у IРО Рэгенсбург быў пасланы пісьмовы пратэст із просьбаю адмяніць гэтую ардынацыю й замяніць яе на ардынацыю прапарцыянальную, якая-б адпавядала вымогам запраўдных дэмакратычных выбараў. Аднак, гэты пратэст не памог. Дзіўна, але факт.

З гэтае прычыны сьпіс кандыдатаў у новую лягерную раду злажыла толькі адміністрацыя. Іншыя сваіх сьпісаў выставіць не маглі, хоць яны й былі падрыхтаваныя й за кажнага зь пяцёх кандыдатаў падпісалася 60 выбаршчыкаў. Галасаваньне мусіла адбывацца толькі на адзін сьпіс. Тады выбарчая камісія без усялякага права ўлучыла ў свой сьпіс кандыдатаў зь пяцёх асобаў (а выбіраць трэба было толькі пяць асобаў) шостага кандыдата з другога сьпісу, ад якога дзеля гэтага із 60 патрэбных подпісаў спэцыяльнай пісьмовай заявай у выбарчую камісію 45 выбаршчыкаў свае подпісы зьнялі.

Такім парадкам, не зважаючы на пратэсты, галасаваньне адбывалася толькі на адзін сьпіс адміністрацыі, а выбіраць ня было з каго, бо зь пяцёх выстаўленых кандыдатаў і выбіраць трэба было пяць. Усе пяць кандыдатаў адміністрацыі й прайшлі — дый як маглі не прайсьці?

Адкуль узяты ўзор такіх «найдэмакратычнейшых» выбараў? Ці не зь нядаўных у вапанаванай бальшавікамі Чэхаславаччыне?

У знак пратэсту супраць такое камэдыі перавыбараў 1/3 выбаршчыкаў зусім на галасаваньне не пайшла, а некаторыя з тых, што пайшлі, кінулі няважныя бюлетэні. Вялікая-ж маса іншых, бачачы нямінучасьць «перамогі» адміністрацыі й баючыся ейных перасьледаў, абмежаваньняў і ўціскаваньняў — кідалі «за» з адзіным матывам: «Ці-ж ня ўсёроўна?» Ізноў, зусім як у Чэхаславаччыне (балазе, ад Міхельсдорфу яна зусім недалёчка...).

У IРО пададзены новы пратэст. Але-ж ці адзін пратэст падаваўся ў ЗН у справе чэхаславацкіх трагікамэдыяў? **Міхельсдорфскі.**

**Ад рэдакцыі.** Што да IРО Рэгенсбург, дык, здаецца, тут невялікае дзіва. Чулі й мы, што міхельсдорфскія «чэхаславакі» маюць там сваю моцную руку ў васобе аднаго ўплывовага ўрадаўца, які прост зь пенаю ў роце бароніць і іх, і наагул «великую идею единой и неделимой» з улучэньнем у вапошнюю нат прыбалтыцкіх гаспадарстваў, грамадзянінам аднаго зь якіх ён пішацца.

## ТРЫ ГАДЫ

У чырвені месяцы сёлета Беларуская Гімназія імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе закончыла свой трэйці навучальны год на эміграцыі. Тры гады працы ў нармальных абставінах — гэта невялікі пэрыяд, але ў нашым дыпісаўскім стане — гэта цэлая падзея. Апошні навучальны год гімназіі прайшоў найбольш нармальна, у тым сэньсе, што колькасьць вучняў ладна павялічылася, ад самага пачатку й да канца году працавалі высокакваліфікаваныя настаўніцкія сілы, займаліся поўнасьцяй усе 8 клясаў і навучальны год закончыўся зь нязначнай колькасьцяй другагоднікаў.

На пачатку навучальнага 1947/48 г. было ў гімназіі 126 вучняў, зь якіх на працягу году выбыла ў іншыя лягеры й на эміграцыю 20 асобаў. У канцы навучальнага году пераведзена ў старэйшыя клясы з добрымі ў сярэднім адзнакамі 74 вучні, 8 абітурыентаў атрымалі атэстаты сьпеласьці (адна зь іх, Ганчарэнка Галіна, за пахвальнай граматай), 3 матурыстыя гэтага году ўжо студыююць мэдыцыну ў Тубінгенскім унівэрсытэце.

Дык ніякага дзіва, што сход бацькоў вучняў гімназіі ў канцы навучальнага году аднадушна выказаў сваю шчырую ўдзячнасьць дырэкцыі й пэдагагічнай радзе за іхную пазытыўную й цяжкую працу.

Але тут-жа на гэтым сходзе выявілася, што настаўніцтва нашае ў даволі цяжкім матар'яльным стане, не заўсёды й ня ўвесь штат атрымвае навет мізэрныя ираўскія харчовыя працоўныя дадаткі. Настаўнікі маюць куды менш, як звычайныя лягерныя службоўцы, бо вымушаныя дзяліць міжсобку гэтыя дадаткі.

У будучыні канечна трэба як бацьком, так і лягернай адміністрацыі падумаць аб адпаведным падтрыманьні пэдагагічнага пэрсаналу.

Пасьля абмеркаваньня вынікаў працы гімназіі за год на бацькоўскім сходзе, назаўтрае ў нядзелю адбылося ўрачыстае заканчэньне навучальнага году для вучняў. Пасьля малебну ў лягернай царкве вучні й настаўнікі зыйшліся ў будынку гімназіі; дзе былі абвешчаныя ім іхныя адзнакі й адбылося агульнае фатаграфаваньне перад будынкам школы.

Карыстаючыся з добрага надвор'я, самадзейнасьць — дэклямацыя, сьпевы, спартовыя выступленьні, гульні — адбылася на вольным паветры каля лесу.

Трэба спадзявацца, што моладзь пасьля летняга адпачынку яшчэ пільней возьмецца за навуку, а тыя, хто яшчэ вонках гімназіі, асабліва ў іншых лягерах, адумаюцца і, пакуль яшчэ ня позна, пастараюцца ўліцца ў гэтую бадзёрую маладую сям'ю, дык здабудуць сярэднюю асьвету. Хай не саромеюцца, што яны ўжо крыху перарасьлі, лепш пазьней, чым ніколі. Вучыцца-ж ніколі ня позна. Пажадаем таксама й дырэкцыі ды ўсяму пэдагагічнаму пэрсаналу добрага здароўя й энэргіі да далейшай цяжкой працы. **Бацька.**

---

ло там прадстаўнікоў зь вялікае часткі беларускіх земляў на захадзе і ўсходзе), узялі й «пацьвердзілі» Ўстаўную грамату 25 Сакавіка 1918 г. Вялікае дасягненьне! Хіба-ж і сяньня, як выбяруць іх на прадстаўнікоў, «пацьвердзяць» дасягненьні, якія зрабіў Урад БНР із сваймі супрацаўнікамі, бо большай надзеі няма, каб яны зрабілі. Бараніць беларускіх справаў ня здолеюць, як ня здолелі бараніць іх у часе нямецкае акупацыі.

Далей галосяць, што ёсьць зашмат розных БНЦ, БДК і г. д. Дык яны-ж яшчэ дадалі адзін больш, дык гэта чыя віна?

Калі яны запраўды патрыёты, дык павінны не разьбіваць нацыянальныя сілы, але арганізаваць і кансалідаваць да канчальнай расправы з ворагам, ўспраўняць арганізацыйнае жыцьцё й паляпшаць матар'яльны быт грамадзянаў на чужыне. Заміж гэтага трацяць сілы на сваркі, апошнія грошы на выдавецтва абсурднай прапаганды, паказваючы свае слабасьці варагом Беларускага Народу, якія сваім парадкам выкарыстоўваюць гэта на сваю карысьць. Ці ня лепш было-б прафесаром і дактаром узяцца й апрацаваць якісь падручнік, які-б прынёс практычную карысьць?

Хто мае лепшае, або маральнае права ўважаць сябе за прадстаўніка беларускай эміграцыі на чужыне — сп. інж. М. Абрамчык ці праф. Р. Астроўскі? Тут ясна, што ні адзін, ні другі ня быў выбраны беспасярэдня беларускім народам. Але інж. М. Абрамчык мае мандат 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу, дарогай, традыцыйнай урадам на чужыне, перададзены тэстамэнтам свайго папярэдніка. Сп. праф. Р. Астроўскі ня толькі ня мае ніякага мандату, а «прэзыдэнтам» зрабілі яго Немцы, наколькі ведама, ніхто яго ня выбіраў. Прынамся я, Беларус з Наваградка, — ня выбіраў!

І сьмешна, што сп. праф. Р. Астроўскі, сэнатары й паслы, якія калісьці імі былі, сяньня яшчэ лудзяцца быць выбранымі. І я тут важуся сказаць, што калі вернемся на вольную Бацькаўшчыну, ніхто зь іх ня будзе выбраны. Асабліва сэнатары й паслы, дык няма мовы, бо некаторыя зь іх яшчэ тады скампраміталіся сваім захоўваньнем перад Беларускім Народам. Большыя гэроі й патрыёты былі суджаныя сваім народам за пазьнейшыя ўчынкі, прыклад маем ува Францыі з маршалам Пэтэнам. Дык калі даб'ёмся да вольных выбараў на Бацькаўшчыне, нам людзей стане маладых духам і ідэяй, здаровых фізычна й маральна, моцнай волі й заслужаных у змаганьні за Незалежнасьць і Волю Беларусі, запраўдных нацыяналістых і дэмакратаў, бязь ніякага нахілу ні на Захад, ні на Ўсход, якія будуць мець адну мэту — **дабро беларускага народу** — а не сваё асаблістае. **К. Мерляк.**

Аргентына, Буэнос-Айрэс, 9. 6. 1948.

## СУПРАЦЬ ЧОРНАЕ СОТНІ

### БРАВА ВАМ, СКАЎТЫ МІХЕЛЬСДОРФУ!

Паўночная Францыя.

27. 6. 48 адбылася ў нас месячная зборка сяброў «Хаўрусу Беларусаў у Францыі». Пасьля дакладу аднаго зь сяброў пра міжнароднае палажэньне й ролю Беларусаў у сягоньняшніх падзеях, пачалі гутарыць аб выбрыках чарнасоценцаў у Міхельсдорфе. Па кароткай гутарцы было ўхвалена пераслаць беларускім скаўтам ў Міхельсдорфе наступнае:

**Беларускія скаўты Міхельсдорфу!**

Мы, Беларусы шахцёры з Паўночнае Францыі, даззналіся аб ганебным выступе чарнасоценцаў у Міхельсдорфе, і гэта нас кранула да найглыбейшых закамаркаў нашых простых сэрцаў.

Мы моцна ўзбураныя такім учынкам і ў будучыні будзем старацца выкідаць такі элемэнт з нашых радоў. А вам, дарагая моладзь, будучыня нашае дарагое Бацькаўшчыны, пасылаем гарачае прывітаньне за вашую гордую паставу й за пашану, адданую стаптаным Штандарам.

Скаўты Міхельсдорфу! Скаўты Нямеччыны! Нас вельмі цешыць вашая арганізаванасьць і вашая станаўкая адпорнасьць усім атакам. І мы верым, што з гэткай моладзяй, як вы, мы хутка пойдзем на дарагую нам Бацькаўшчыну, а штандары, стаптаныя чарнасоценцамі, павядуць нас усіх за незалежнасьць Беларусі.

На гэтым скончым, а з нашых простых сэрцаў выходзіць кліч:

**Брава вам, скаўты Міхельсдорфу!**
**Жыве БНР!**
**Жыве Беларусь!**

Lieberkourt, 27. 6. 48. Старшыня сходу **Вал. Сыс.**

## МЫ АДЧУЛІ ЛАСКУ ДУХА СЬВЯТОГА

(Ад праваслаўных Беларусаў прыходу Міхельсдорф).

Мы вельмі ўсьцешыліся з новай падзеі ў жыцьці праваслаўных Беларусаў на эміграцыі — стварэньня нашым духавенствам часовага камітэту для правядзеньня працы ў Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царкве. Безнагляднасьць за царкоўным жыцьцём праваслаўных Беларусаў і тыя падзеі, якія выклікалі адыход вышэйшае гіерархіі беларускай да расейскага зарубежжа, вельмі болесна адчуваліся праваслаўнымі вернікамі.

Мы запростыя, каб разьбірацца ў канонах, але мы адчулі ласку Духа Сьвятога, які нам кажа, што праца Аўтакефальнай Беларускай Праваслаўнай Царквы пойдзе нам і нашаму народу на збаўленьне душаў нашых.

Гэта ў нашым прыходзе здарыўся выпадак, калі нашых дзяцей-скаўтаў чужое зарубежніцтва не дапусьціла ў царкву, каб выявіць Богу свае і рэлігійныя і патрыятычныя пачуцьці. Моцна мы ўсе адчулі гэта й чуліся пакрыўджанымі бяз уцехі, навет калі наведаў наш лягер зарубежніцкі архіепіскап праваслаўны, які ад'ехаў чужым і халодным да нашых рэлігійных і нацыянальных пачуцьцяў.

Таму нам радасна чуць, што нашае духавенства, расьцярушанае на чужыне, зьехаўшыся ў гор. Канстанцы, адчула нашую нядолю безнагляднасьці й стварыла аўтарытэтны, хаця й часовы, камітэт Белар. Аўтакеф. Прав. Царквы, ды будзе выраўноўваць ненармальнасьці у нашым царкоўным жыцьці.

Шлём у далёкую Канстанцу, сваім патрыётам-сьвятаром і Яго Найасьвяшчэнству Ўладыку Сергію шчырае прывітаньне і зь вялікай надзеяй верым у будучыню Бел. Аўтакеф. Прав. Царквы і на чужыне і на Бацькаўшчыне. **Жыровіцкі.**

# † Аляксандар Акановіч

**8. 2. 1902 — 30. 6. 1948.**

Наш народ-пакутнік на працягу сваё шматвяковае гісторыі нарадзіў ці мала сьціплых, сумленных, з гарачым сэрцам энтузіястых найцяжкой і часам няўдзячнай, чорнай працы, якая не дае ніякіх доўга- ці кароткатрывалых выгодаў ды ілюзорнае славы й гонару.

Да гэткіх сьціплых гэрояў працы й змаганьня належаў сьвятой памяці настаўнік Беларускае Гімназіі імя Я. Купалы сябра **Аляксандар Акановіч.**

Сьв. п. с. Акановіч нарадзіўся 8. 2. 1902 у сялянскай сям'і на Меншчыне. Ад самога маленства ён зьвязаны з працай на роднай зямельцы, з народам. Перамагаючы ўсялякія матар'яльныя цяжкасьці, здабывае сярэднюю й сярэднюю пэдагагічную асьвету (у 1925 г.). Тады-ж пачынае й сваю настаўніцкую дзейнасьць у пачаткавай народнай школе.

Аднак, энэргічны малады настаўнік сьв. п. с. Акановіч разумее, што ён патрапіць даць больш карысьці, калі здабудзе вышэйшую асьвету. Тады ён падаецца ў унівэрсытэт, які й канчае на фізычна-матэматычным факультэце. Пасьля ўнівэрсытэту мы зноў бачым яго ў беларускім школьніцтве.

Усё сваё жыцьцё сьв. п. с. Акановіч быў запраўдным настаўнікам-бацькам сваіх гадунцоў, яго не цягнула да выгодных, цёплых і шумных пасадаў — ідэалам ягонага жыцьця была школа — дзеці.

Гэтак і ў часе ваеннай завірухі мы бачым яго, напоўгалоднага, але самаахвярна адданага арганізацыйна-пэдагагічнай працы ў якасьці дырэктара Беларускае Гімназіі.

На эміграцыі сьв. п. с. Акановіч да прыходу Амэрыканцаў змушаны быў цяжка, па 12 гадзінаў на дзень, працаваць звычайным фізычным работнікам на аднэй зь нямецкіх хвабрыкаў у Судэтах.

Перабраўшыся ў 1946 г. у беларускі лягер ДП, сьв. п. с. Акановіч ізноў стае ў рады пэдагогаў Беларускае Гімназіі імя Я. Купалы, дзе аддаецца працы зь нязменшай энэргіяй, як на Бацькаўшчыне.

Аднак, надлюдзкае напружаньне нэрваў і гарачага сэрца апошнім дзесяцігодзьдзем падарвала здароўе няўтомнага працаўніка.

І вось 30-га чырвеня сёлета, а 9-ай гадзіне ўвечары, нечакана гэтае сэрца дарогога нашага сябры Алеся перастала біцца...

Адыйшоў ад нас у вечнасьць, не пабачыўшы роднай зямелькі, якую ён так горача кахаў і сумаваў па ёй, яшчэ адзін шчыры змагар ды зьменшыў і так неграмадныя рады безынтэрасоўных ідэйных сьціплых працаўнікоў на эміграцыі.

Ты адыйшоў ад нас, сябра Алесь, але памяць аб Табе застанецца ў нашых сэрцах і ў сэрцах тваіх-жа вучняў і вучаніцаў, аб якіх Ты запраўды пабацькаўску рупіўся й як бацька журыў іх.

Хай-жа лёгкай будзе Табе чужая Баварская зямля!

Вечная памяць!

**Мясцовая Група Міхельсдорф**
**Беларускага Настаўніцкага**
**Згуртаваньня на Эміграцыі.**

## БЫВАЙ!

3. 7. 48 адбыліся паховіны цела Сьв. П. Аляксандра Акановіча ў г. Каме. Пасьля Божае службы духоўнік сьціраваўся на могілкі, за ім ішлі папарадзе зь вянкамі, а далей усе Беларусы ў ліку колькісот асобаў, як вучняў, скаўтаў, так і старэйшых, што наведалі паховіны. На могілках пры дамавіне, пасьля малітваў і рэлігійнага каталіцкага цэрэманіялу, духоўнік у кароткай прамове панямецку выказаў жаль, што нябожчык яшчэ ў сярэднім веку змушаны доляю злажыць свае косьці ў чужой яму баварскай зямлі, выражаючы пры гэтым надзею, што й гэтая зямелька ня будзе яму цяжкою. Дырэктар гімназіі, дзе працаваў нябожчык, настаўнікі зь Міхельсдорфу й Віндышбэргердорфу, вучань-гімназісты, прадстаўнік бацькоў і дэлегат-прадстаўнік зь беларускага лягеру Остэргофэн сумнымі прамовамі разьвіталіся із сваім супрацаўнікам, прыяцелям, настаўнікам, узгадаваўцам і ідэйным сябрам-аднадумцам.

Усе канчалі свае разьвітаньні на вечнасьць адным: «Бывай! Бывайце!» Здавалася-б, што гэты агульна прыняты зварот нікога не павінен лішне ўзварушыць, аднак, аказалася, што рэдка ў каго не пакацілася ці адна сьлязіна. Чаму? І чаму маса Беларусак і Беларусаў прыйшла й прыехала нат ня зблізку на паховіны сьв. п. Акановіча? Бо гэта быў, хоць і сьціплы сабою, але запраўдны настаўнік-узгадавальнік, не рамясьнік ці бязьдзейнік, і пры гэтым — шчыры беларускі патрыёт, бязьмежна адданы свайму народу й Бацькаўшчыне.

Дык бывай-жа, бывай, дарагі сябра-настаўнік і верны прыяцель! Няхай Найвышні ўзнагародзіць Цябе за ўсё.

Бывай! **Асімовіч.**

---

**Беларускі Нацыянальны Камітэт на Амэрыканскую Зону Нямеччыны, Беларускае Настаўніцкае Згуртаваньне на Эміграцыі, калектыў гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе й калектыў гімназіі ў Остэргофэне выказваюць сваё глыбокае спачуваньне сям'і сьв. п. АЛЯКСАНДРА АКАНОВІЧА.**

---

Ня словамі, а яшчэ большай зацятасьцяй у напружанай працы й змаганьні хочам уплесьці сваё вязьмо ў вянок на магілку старога сябры Алеся, нясучы ў сэрцы сваім глыбокі жаль і шчырую спагаду асірацелым.

Сябры з Рэдакцыі «Бацькаўшчыны».

---

Сям'я нябожчыка А. Акановіча гэтым складае шчырую падзяку ўсім грамадзянам і арганізацыям, што ўзялі ўдзел у паховінах дарагога нам мужа й бацькі.

---

Бацьку **Рыбніка** Ціхона з Браслаўшчыны — Рыбнік Лявон. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Whiteruthenian Weekly „The Fatherland“
Authorized by EUCOM Hg. Civil Affairs Division, 11 March 48, N UNDP 225. Circulation 4000 copies.
Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by: Hils & Maier, Dingolfing, Bruckstraße 99.